# КНІГАРНЯ

ВЫДАЕЦЦА З 1988 г. ● № 10/65 ● 1—15 жніўня 1994 г. ● КОШТ НУМАРА: па падпісцы 100 руб., у розніцу 200 руб.


СЁННЯ Ў НУМАРЫ:


«БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-94»

ЗНОЎ АБ РЫНКУ

СІГНАЛЬНЫЯ ЭКЗЕМПЛЯРЫ

КАЛЯНДАР

З РУКАПІСУ ЛАРЫСЫ ГАЛАВАНАВАЙ




## «БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-94»

**Ліпеньскую выставу «Беларуская кніга-94» адкрыў і вёў намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь І. А. Карэнда.**

**Іван Арсеньевіч паведаміў, што ў справаздачным, шостым месяцы, у рэспубліцы было выпушчана ўвогуле 277 назваў кніг і брашур агульным тыражом 7,1 млн. экземпляраў. З іх у дзяржаўных выдавецтвах выйшла 93 кнігі тыражом 3,2 млн. экз.; камерцыйных — 75 кніг тыражом 3,8 млн. экз; міністэрствамі і ведамствамі выпушчана 109 назваў тыражом 65,9 млн. экз.**

Было адзначана, што ў апошнім месяцы першага паўгоддзя дзяржаўныя выдавецтвы трохі актывізавалі сваю дзейнасць. І па назвах, і па тыражах, і па аб'ёму яны перавысілі паказчыкі як мая, так і красавіка. Затое недзяржаўныя структуры знізілі свае паказчыкі літаральна па ўсіх напрамках. Калі ж даваць агульную характарыстыку работы абедзьвюх сістэм кнігавыдання, то атрымоўваецца, што з месяца ў месяц названыя паказчыкі хістаюцца на карысць то адной, то другой структуры.

**На выставе намеснік міністра вёў гаворку і аб паўгадовых выніках у галіне.**

**— Увогуле,— падкрэсліў І. А. Карэнда, у рэспубліцы — за 6 месяцаў бягучага года выпушчана 1458 назваў кніг і брашур агульным тыражом 42,5 млн. экземпляраў. У тым ліку дзяржаўныя выдавецтвы выпусцілі для дзяржаўных патрэб 410 назваў кніг, брашур і іншых відаў друкаванай прадукцыі тыражом 12,2 млн. экз.**

Што тычыцца тэматычных накірункаў выпушчаных выданняў, то значнае месца сярод іх займаюць падручнікі, навукова-папулярная, навукова-тэхнічная і даведачная літаратура.

Заслугоўваюць увагі такія выданні, як «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» Том 1., энцыклапедыя «Археалогія і нумізматыка», 5-е выданне «Русско-белорусского словаря» у 3-х тамах, «Гісторыя Беларусі» М. Доўнара-Запольскага, біябібліяграфічны даведнік «Беларускія пісьменнікі» т. 3 (выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя»); «Кніга жыцій і хаджэнняў» з серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі» (выдавецтва «Мастацкая літаратура») і многія іншыя.

**І. А. Карэнда крануў і праблемы кнігавыдавецкай справы ў рэспубліцы, унёс цікавыя прапановы па паляпшэнню становішча ў галіне.**

**Ліпеньская экспазіцыя таксама прадставіла нямала цікавых, значных выданняў па гісторыі, нацыянальнаму адраджэнню, літаратуры і мовазнаўству, слоўнікі, даведнікі. Выйшлі кнігі і па экалогіі.**

**На выставе адбылася прэзентацыя новага энцыклапедычнага выдання «БЛАКІТНАЯ КНІГА БЕЛАРУСІ». Яе правялі супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя П. Броўкі — намеснік галоўнага рэдактара Я. В. Малашэвіч, намеснік адказнага сакратара М. М. Курловіч. На прэзентацыі кнігі выступіў начальнік упраўлення навукі і замежных сувязей Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь А. М. Рачэўскі.**

***ХАЦЯ ў апошні час попыт на беларускамоўную кнігу значна павялічыўся, усё-такі існуе такая думка, што іх якасць не адпавядае узрослым патрабаванням сучаснага чытача.***

***У чым тут справа? Чаму беларуская кніга амаль не перакладаецца на іншыя мовы свету? Чаму амаль немагчыма сустрэць яе на прылаўках кніжных крамаў Францыі, Англіі, Амерыкі?.. Як адчуваюць сябе беларускія пісьменнікі ў наш нялёгкі час?***

***На гэтыя і іншыя пытанні спрабуе адказаць карэспандэнту газеты «Кнігарня» Паўлу САВОСЬКУ вядомы ў Беларусі крытык і публіцыст Валянцін АКУДОВІЧ.***

## *Валянцін АКУДОВІЧ:*

# *«Сітуацыя атрымліваецца даволі драматычнай»*

**— Ці трэба баяцца беларускім пісьменнікам рынка, які мы няўмела спрабуем пабудаваць? Камерцыйныя выдавецтвы завалілі прылаўкі кнігамі замежных аўтараў. Магчыма, спаборнічаць з імі перашкаджае нашым літаратарам родная мова? Хаця, асабіста я лічу, што калі кніга адметная, займела поспех у чытачоў, то імгненна будзе перакладзена на расейскую, а пасля, калі пашчасціць, і на іншыя мовы свету...**



— Праблема рынка настолькі шматзначная, што кожны канкрэтны адказ (як і кожнае канкрэтнае запытанне) патрабуюць бясконцых удакладненняў. Вось і ў дадзеным выпадку... Гэта толькі здаецца, што мы будуем «рынак». Як толькі мы перастаем будаваць нешта (камунізм ці што яшчэ), рынак сам пачынае нас «будаваць». Рынак паўстае стыхійна ўсюды, дзе слабне штучна ўтвораны прымус над непасрэднай стыхіяй жыцця. З гэтага вынікае, што беларускім пісьменнікам, як ідэалагічным будаўнікам камунізму (нават калі нехта з іх быў у маўклівай апазіцыі да гэтай будоўлі) трэба баяцца рынка, бо цяпер яны перасталі быць тымі, хто будуе і зрабіліся тымі, «з каго будуюць». Зрэшты, яны ўжо даўно баяцца, але дарэмна пераносяць свой страх і сваю нянавісць на нахабную дзейнасць камерцыйных выдавецтваў. Уся тая юрліва-стракатая прадукцыя, якой шчыльна напханыя паліцы крамак і кніжных магазінаў, за рэдкімі выключэннямі не мае аніякага дачынення да літаратуры і канкурэнтам літаратуры быць не можа, як не можа быць канкурэнтам гумавая жуйка, скажам, шампанскаму...

Не рынка трэба баяцца, а камунізму (у самым шырокім сэнсе гэтага паняцця) у сабе. Вось дзе, а не за супервокладкай папяровай жуйкі, сапраўдны вораг.

Натуральна, знайсці сваё месца ў новых і нязвыклых варунках зусім не проста, а для некага ўжо проста і немагчыма. Аднак тут нічога не паробіш, як гэта ні жахліва ўсведамляць.

А што да мовы, то, згодзен, сама па сабе, яна не перашкода папулярнасці твора. Аднак, разам з тым, відавочна, што абмежаваная сфера ўжывання беларускай мовы значна звужае абсягі гэтай папулярнасці. Пераклад твора на расейскую мову нічога тут не вырашае, бо кожная перакладзеная кніга становіцца фактам той культуры, на мову якой яна перакладзена.

Я ўжо не кажу пра тое, што расейскую індустрыю перакладу сёння наўрад ці завабіць нават сапраўды выдатная беларуская кніга. Бо і там выдаўцоў цікавіць не тэкст, а папулярнае імя. Васіля Быкава можа яшчэ і перакладуць, а больш наўрад ці каго...

**— А чаму ў Беларусі няма сусветна вядомага пісьменніка? Ці, магчыма, я памыляюся: ён быў раней, або ёсць цяпер? Няма пакуль што і лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі.**

— Не можа быць сусветна вядомага пісьменніка ў краіне, якую мала хто ў свеце ведае. Калі ўся краіна з працай і творчасцю больш чым дзесяцімільённага народа ніяк не здолее прыдбаць сабе Імя, то як можна спадзявацца, што гэта зробіць адзін чалавек? Дарэчы, сусветна знакамітых пісьменнікаў не так ужо і шмат, асабліва калі раўнаць з колькасцю моваў (іх, калі не памыляюся, за дзве з паловай тысячы). Ды і ўвогуле, кожнае з'яўленне на літаратурным небасхіле новай зоркі залежыць ад стольікх суб'ектыўных фактараў, што даволі небяспечна вызначаць у гэтай справе нейкія аб'ектыўныя крытэрыі. Скажам, я амаль упэўнены, што калі б Кузьма Чорны, з тымі ягонымі набыткамі, якія мы маем, здзяйсняў сябе ў французскай літаратуры, то, напэўна, быў бы сярод нобелеўскіх лаўрэатаў. Трохі перабольшваючы, заўважым, што ў Францыі той пары ці не кожны больш-меньш адметны пісьменнік атрымліваў прэмію Нобеля.

Апошнім часам сітуацыя з Нобелеўскімі прэміямі трохі перамянілася, але сама ўзнагарода па-ранейшаму залежыць не столькі ад творчасці, як эстэтычнай дзейнасці таго ці іншага літаратара, колькі ад шматлікіх ускосных прычын, падчас зусім і не звязаных непасрэдна з творцам і ягоным творывам. З гэтай высновай магу нават адважыцца на футуралагічны экскурс. Першым, хто атрымае прэмію Нобеля ў Чарнаморска-Балтыйскім рэгіёне — будзе пісьменнік-прыбалт. І зусім не таму, што лепшыя з беларускіх пісьменнікаў маштабам творчасці саступаюць прыбалтыйскім... Народы гэтых краін упартай, мужнай і цывілізаванай барацьбой за незалежнасць выклікалі ў міжнароднага супольніцтва і ўвагу, і павагу да сябе. А гэта той грунт, той падмурак на якім ужо можа паўстаць і канкрэтная постаць.

**— Не сакрэт, што ў нашы дні многія пісьменнікі разгубіліся, бо раней была амаль адзіная тэма — услаўленне кампартыі. А цяпер наш пісьменнік павінен арыентавацца на чытачоў, ці ўсё-такі пісаць твор, які, магчыма, і не сугучны часу, але выказвае асабісты погляд аўтара на жыццё.**

— Выбар: для каго пісаць пісьменніку, для сябе ці чытача, ад самога пісьменніка не залежыць, бо гэты «выбар» ужо экзістэнцыйна закладзены ў ягоную творчую канстытуцыю. Але і ў тым і ў іншым выпадку сітуацыя атрымліваецца даволі драматычнай. Той, хто піша для сябе, губляе чытача; той, хто піша для чытача — губляе сябе.

Дарэчы, якраз тут і праходзіць падзел паміж «элітарнай» і «белітрыстычнай» літаратурай. Але калі пакінуць «элітарных» пісьменнікаў у спакоі, то трэба зазначыць, што нам нікуды не падзецца ад пераарыентацыі на свядомую белетрызацыю творчасці. Гэта, можа, адна з найбольш актуальных и складаных цяперашніх праблем нашай літаратуры. Сярэднестатыстычны беларускі пісьменнік прывучаны пісаць не для чытача, а для «рэдактара», гэта значыць для таго, хто прадстаўляе пэўны ідэалагічны інстытут, ад якога і залежала, ці пабачыць кніга свет. Гэтага пісьменніка (як і рэдактара) амаль не турбавала, чытаюць кнігу ці не, галоўнае, каб надрукавалі.

Пакуль што наша кніга трымаецца з дапамогі дзяржавы, і многія па-ранейшаму не зважаюць на чытача. Толькі гэтая пара ўжо на сыходзе... Далей заказваць музыку будзе той, хто чытае (купляе) кнігу. А купляюць, звычайна, толькі тое, што патрэбна.

**— Ці прытрымліваецеся вы такой думкі, што сапраўдны пісьменнік павінен толькі пісаць кнігі, а не хадзіць штодня на працу? На пражыццё яму павінна хапаць ганарараў ад выдадзеных кніжак.**

— Можа, было б і добра, каб пісьменнік мог зарабляць сабе на жыццё сваімі кнігамі. Але такой магчымасці ён не мае і не толькі ў нас на Беларусі — нідзе. Праўда, ёсць выключэнні, аднак іх няшмат. Да таго ж няма падстаў сцвярджаць, што гэта неяк уплывае на якасць творчасці. Аднойчы Фёдар Дастаеўскі сказаў прыкладна так: калі б я быў такі забяспечаны, як Леў Талстой, то мае кнігі чыталі б і праз сто гадоў...

Чытаюць, ва ўсім свеце, і не раўнуючы як Льва Талстога. Хаця апошнім я ніяк не хачу сказаць, што жабрацтва на карысць пісьменству і што заўсёды добра, калі кніга пішацца прыхапамі ў рэдкую вольную хвіліну... Але можа і не заўсёды дрэнна, бо, бывае, чытаеш творы некаторых нашых пісьменнікаў, якія, відаць, маюць даволі часу для пісання, і шкадуеш, што ў іх гэты час быў.

# СІГНАЛЬНЫЯ ЭКЗЕМПЛЯРЫ

У СПІС УКЛЮЧАНЫ КНІГІ, СІГНАЛЫ ЯКІХ ПАСТУПІЛІ ЗА АПОШНІ ЧАС У НАЦЫЯНАЛЬНУЮ КНІЖНУЮ ПАЛАТУ БЕЛАРУСІ

## ГРАМАДСКІЯ НАВУКІ. ГІСТОРЫЯ. ГЕАГРАФІЯ

БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ (1917—1990): Даведнік / [Склад. А. К. Гардзіцкі; Навук. рэд. А. Л. Верабей].— Мн.: Маст. літ., 1994.— 652, [1] с.: партр.— (У пер.): Б. ц., 22 000 экз.

БЕКІШ В. А., ІВАШУЦІЧ Я. М. Беларуская мова ў 3 класе: Дапам. для настаўніка.— Мн.: Нар. асвета, 1994.— 77, [2] с.— (Бібліятэка настаўніка пачатковых класаў).— Б. ц., 32 000 экз.

БОТВИННИК М. Б., Г. М. ЛИВШИЦ: Ист. очерк / Под ред. В. А. Федосика.— Мн.: Навука і тэхніка, 194.— 191, [1] с.: ил., портр.— Б. ц., 1000 экз.

ЕМЕЛЬЯНЧИК У. П. Паланез для касінераў: (З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі на Беларусі).— Мн.: Беларусь, 1994.— 158, [2] с.: іл.— Б. ц., 10 000 экз.

ЛАКОТКА А. І. Бераг вандраванняў, ці адкуль у Беларусі мячэці.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 95, [45] с.: іл.— Б. ц. (вып. дан. 380 р.), 6000 экз.

МИНСК: Ист. очерк / [Предисл. А. Н. Кулагина; Худож. Е. А. Ждановская].— Мн.: Універсітэцкае, 1994.— 45, [3] с.: ил.— Б. ц., 30 000 экз.

МАЦВЕЕЎ А. В., ЯКУШКА В. П. Пра рэльеф Беларусі / Пер. Н. Ф. Лапіцкая.— Мн.: Нра. асвета, 1994.— 71, [2] с., уключ. вокл.: іл.— Б. ц., 17 500 экз.

## АДУКАЦЫЯ. МЕДЫЦЫНА

ГАЦКО Г. Р., КАНАПЛЯ Я. Ф. Прыродная радыёактыўнасць / АН Беларусі. Ін-т радыёбіялогіі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 67, [3] с.— Б. ц., 3000 экз.

ГЛАСС Д. Жить до 180 лет / Дж. Гласс; [Пер. с англ. Г. Г. Демирчогляна]. Чудо голодания / Поль С. Брэгг; [Пер. с англ. С. Шекмана, Б. Шекмана].— Салернский кодекс здоровья, написанный в четырнадцатом столетии философом и врачом Арнольдом из Виллановы / Арнольд из Виллановы; [Пер. с лат. Ю. Ф. Шульца].— Мн.: БелЭн, 1994.— 364, [1] с.— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

ЛИБИНТОВ М. А., ЛОСЕВА Л. П. Здоровье без таблеток и пилюль.— Мн.: Рибl. House, 1994.— 174, [1] с.— Б. ц., 50 000 экз.

УСОВ И. Н., ФУРСЕВИЧ В. М., КЕВРА М. К. Фармакорецептурный справочник педиатра.— 2-е изд., перераб. и доп.— Мн.: Выш. шк., 194.— 447, [1] с— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА. ДАМАВОДСТВА

АЗБУКА КУХНИ / [Составитель А. В. Новикова].— Мн.: Універсітэцкае, 194.— 28, [3] с. — Б. ц., 29 240 экз.

ЕРМАКОВ Н. К., КАСКО И. И. Материально-техническое снабжение сельского хозяйства Беларуси.— Мн.: Ураджай, 1994.— 264 с.— (Учебные пособия для сельскохозяйственных высших учебных заведений).— Б. ц., 800 экз.

## МОВАЗНАЎСТВА. МАСТАЦТВА. ФІЛАЛОГІЯ

АМЕРИКАНСКИЙ ЯЗЫК ДЛЯ СОВЕРШЕНСТВУЮЩИХСЯ: [Учеб. пособие для студентов лингв. вузов и фак. иностр. яз. / Л. И. Кушнарева, Э. Г. Рябцева, И. И. Токарева, Д. Немец-Игнашева].— Мн.: Выш. шк., 1994.— 145 с.— Б. ц., 1000 экз.

МІКУЛІЧ М. У. Максім Танк і сучасная беларуская лірыка.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 189, [2] с.— (У пер.): Б. ц., 1000 экз.

НАРЫСЫ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКА-РУСКІХ ЛІТАРАТУРНЫХ СУВЯЗЕЙ. У 4 кн. Кн. 2. Пачатак XX стагоддзя. 1900—1917 /СТ. К. Чабан, В. Ю. Бароўка, С. С. Лаўшук і інш.]; АН Беларусі, ін-т літ. імя Я. Купалы.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 441, [2] с.— Б. ц., 460 экз.

ТКАЦЭВІЧ Г. А., ЛАКОТКА А. І. Беларускі дзяржаўны музей-запаведнік «Менка».— Мн.: Полымя, 194.— 29, [2] с.: — Б. ц., 5000 экз.

## МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

### БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

АРЛОЎ У. А. Пяць мужчын у леснічоўцы: Аповесці. Апавяданні. Эсэ.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 364, [2] с.— (З вякоў мінулых).— (У пер.): Б. ц., 12 000 экз.

ГАРДЗЕЙ В. К. Дзікая пчала: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 188, [1] с.— Б. ц., 1500 экз.

ЛАГОДА Б. Б. Сабака без ашыйніка: [Аповесці, апавяданні].— Мн.: Полымя, 1994.— 94, [2] с.: партр.— (Бібліятэка часопіса «Маладосць»; 5(71).— Б. ц. (Цана па падпісцы 200 р., у розніцу 490 р.), 1510 экз.

МАСАРЭНКА А. Г. Пакуль не завялі кветкі: Прыпавесці, апавяданні, мініяцюры.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 301, [2] с.— (У пер.): Б. ц., 6000 экз.

МІСЬКО П. А. Хлопцы, чые вы будзеце... Раман у 2 кн. Кн. 2 / [Маст. літ., 1994.— 414, [1] с.: іл.— (У пер.): Б. ц., 9000 экз.

МІФЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ Беларус. Энцыкл.; Уклад. У. А. Васілевіч.— Мн.: БелЭн, 1994.— 108, [1] с.— Б. ц., 6000 экз.

СУШКО П. П. Бігосаўскі паром: Зб. паэзіі.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 117, [1] с.— Б. ц., 2200 экз.

### ЗАМЕЖНАЯ ЛІТАРАТУРА

БРАУН С. Техас! Лаки; Техас! Чейз: [Романы: Пер. с англ.].— Смоленск: Фирма «Русич»; Мн.: ПЕП «Дилер», 1994.— 445, [2] с.— (EROTC ввок).— Б. ц., 50 000 экз.

БРАУН С. Техас! Сейдж; Индиго Плэйс, 22: [Романы: Пер. с англ.).— Смоленск: Фирма «Русич»; Мн.: ПКП «Дилер», 1994.— 446, [1] с.— (EROTC ввок).— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

КУНЦ Д. Отроды ночи: Роман / Дин Кунц. Ночной призрак: Роман / Фил Смит; [К сб. в целом: Перевод с англ. В. А. Иваноа, Д. А. Шихова; Худож. И. А. Демковский.— Мн.: 000 «Старый Свет-Принт», 1993.— 493, [3] с.— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

КОЛЛИНЗ Д. Грешники; Жеребец: Романы / [Перевод с англ. А. Герасимова, А. Санина].— Мн.: ПКК «Белфакс», 1993.— 400, [1] с.: ил. — (Стрелы Амура.— (В пер.): Б. ц. 200 000 экз.

КОЛЛИНЗ Д. Игроки и любовники: [Романы /Пер. с англ. Т. Д. Кирилловой].— Мн.: ПКК «Белфакс», 1993.— 431, [1] с.— (Стрелы Амура).— (В пер.): Б. ц., 150 000 экз.

ЛЕСЬМЯН Б. Пан Блішчынскі: [Вершы] / З польскай пер. А. Г. Мінкін; [Прадм. С. І. Дубаўца].— Вільня; Б-ка «Наша Ніва»; Мн.: Маст. літ., 1994.— 92, [2] с.— (У пер.): Б. ц., 2000 экз.

МАКДОНАЛЬД Г. Флетч: [Романы / Пер. с англ. В. А. Вебера. Оформл. К. М. Гордеева].— Мн.: ПКК «Белфакс», 1994.— 46, [1] с.: ил.— (Шедевры мирового детектива. Американский детектив).— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

ПОЛЛИНИ Ф. Девочки Соерсвилля-Ghe girls of soersville: Эрот. детектив / [Пер. с англ. В. К. Небышинца].— Мн.: МП «Беседзь», 1993.— 438, [2] с.— (Мир страстей).— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

ПРОДЮЛЬ Г. Криминальные сенсации / [Пер. с нем. и сост. А. А. Подзярея, С. А. Подзярея). — Мн.: Беларусь, 1994.— 474, [2] с.— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

САТТОН Г. Вуайеры: Свидетели любви /Генри Саттон. Последнее танго в Париже: [Романы] / Роберт Элли; [К сб. в целом: Пер. с англ. О. П. Гапаноич, В. А. Скороденко; Худож. О. П. Волков].— Мн.: ПКК «Белфакс», 1993.— 319, [1] с.: — (Стрелы Амура).— (В пер.): Б. ц., 150 000 экз.

ЧЭЙЗ Д. Х. Вплоть до убийства... : [Романы / Пер. с англ. Г. Сергеев; Худож. С. Пожарицкий].— Мн.: Журналистфонд Беларуси., 1994.— 411, [2] с.— (Библиотека крутого детектива. Неизвестный Чейз).— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

### ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА

АБРАМОВ Ф. А. Братья и сестры: Роман: В 4 кн.: [Для ст. шк. возраста /Худож. С. М. Харитонов].— Мн.: Юнацтва, 1994.— (В пер.): Б. ц., 15000 экз.

Кн.: 1—2 — 542, [2] с., [1] л. портр.: ил.

Кн. 3—4.— 510, [2] с.: ил.

БАРАДУЛІН Р. І. Азбука — Вясёлы вулей: Вершы: [Для дашк. і малод. шк. узросту / Намаляваў М. р. Казлоў].— Мн.: Маст. літ., 1994.— [30] с.: каляр. іл.— Б. ц., 50 000 экз.

БЕГСТВО С ПЛАНЕТЫ ОБЕЗЬЯН: Сб. фантастики: [Для сред. и ст. шк. возраста: Пер. с англ. /Худож. А. А. Федорченко].— Мн.: Навука і тэхніка: ПК «Кросна»: 000 «Этоним», 1994.— 475, [2] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

В МИРЕ СКАЗКИ: [Для мл. шк. возраста / Составитель Г. А. Коломейцева! Худож. С. А. Юк].— Мн.: МП «Терос»: МФЦП, 1994.— 151, [1] с.: цв. ил.— (В пер.): Б. ц., 25 000 экз.

ГАЛІНОЎСКАЯ Н. В. Гусіны капялюш: Вершы, казкі, загадкі; [Для дашк. і малод. шк. узросту / Маст. Г. П. Сянькоўскі].— Мн.: Юнацтва, 1994.— 43, [4] с.: каляр. іл.— Б. ц., 20 000 экз.

МАЛЯЎКА М. А. Дзе жывуць казкі: Вершы, казкі: [Для дашк. узросту / Маст. С. Рыжыкава].— Мн.: Юнацтва, 1994.— 53, [2] с.: каляр. іл.— Б. ц., 20 000 экз.

ПО Э. А. Убийство на улице Морг: Новеллы: [Для сред. и ст. шк. возраста]: С англ.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 365, [2] с.— (Зарубежный детектив).— (В пер.): Б. ц., 70 000 экз.

# *Даты. Імёны. Падзеі*

**16 жніўня — 190 гадоў з дня нараджэння В. Р. Стафановіча (1804-?), беларускага дырыжора, педагога, папулярызатара музычнай культуры, з 1837 г.— кіраўніка Мінскага гарадскога аркестра, удзельніка пастаноўкі оперы «Сялянка» («Ідылія», 1852) В. Дуніна-Марцінкевіча.**

**120 гадоў з дня нараджэння А. М. Уласава (1874—1941), беларускага выдаўца і грамадскага дзеяча, у 1906—1914 гадах — рэдактара газеты «Наша ніва».**

◆◆◆

**20 ЖНІЎНЯ — 60 гадоў з дня нараджэння (1934) М. П. Парахневіча, беларускага пісьменніка.**

◆◆◆

**21 ЖНІЎНЯ — 1569 — Мястэчка Дзісна атрымала магдэбургскае права.**

◆◆◆

**25 ЖНІЎНЯ — 1924, ліпень-жнівень — Пачаў выходзіць «Летапіс беларускага друку».**

◆◆◆

**27 ЖНІЎНЯ — 60 гадоў з дня нараджэння У. І. Лучука (1934—1992), украінскага паэта, перакладчыка беларускай літаратуры.**

◆◆◆

**28 ЖНІЎНЯ — 245 гадоў з дня нараджэння Іагана Вольфганга Гётэ (1749—1832), нямецкага паэта і мысліцеля.**

◆◆◆

**30 ЖНІЎНЯ — 190 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Ходзькі (сапр. Барэйка; 1804—1891), паэта фальклярыста, славіста, усходазнаўца, сябра А. Міцкевіча.**

◆◆◆

**31 ЖНІЎНЯ — 100 гадоў з дня нараджэння А. В. Грубэ (1894—1980), беларускага скульптара, народнага мастака Беларусі.**

## НАРОДНЫЯ ПРЫМАЎКІ

**Прыйшоў Спас — усяму час.**
**У жніўні панамі сярпы — маруды тады не цярпі.**
**Хто ў жніўні гуляе — той зімой галадае.**

# З НЯСВІЖА Ў СВЯТУЮ ЗЯМЛЮ

***1 жніўня споўнілася 445 гадоў з дня нараджэння Мікалая Радзівіла Сіроткі (1549—1616), вядомага дзеяча Вялікага княства Літоўскага.***

* * *

**Мікалай Радзівіл СІРОТКА быў вядомым у свой час дзеячам Вялікага княства Літоўскага — нашай старажытнай дзяржавы. Ён займаў розныя дзяржаўныя пасады, у тым ліку маршалка земскага, віленскага ваяводы. Але яго імя засталося ў памяці нашчадкаў найперш як дзеяча культуры. Цудоўны Нясвіжскі замак, які ўражвае сваёй гармоніяй і дасканаласцю формаў, быў закладзены менавіта М. Радзівілам Сіроткам. Тады ж пабудаваны фарны касцёл, кляштар бенедыкцінак, ратуша.**

**У 1583—1584 гадах ён наведаў краіны Блізкага Усходу. Вынікам гэтага наведвання з'явілася кніга «Падарожжа па Святой зямлі, Сірыі і Егіпце». М. Радзівіл Сіротка маляўніча апісвае святыя мясціны ў Палесціне, вядомыя з Бібліі.**

**Падрабязна малюе інтэр'еры храмаў, палацаў, разважае ад іх эстэтычнай каштоўнасці. У Егіпце Сіротка пабываў каля сфінкса і пірамід, у Александрыі наведаў старажытную хрысціянскую калону Пампея, у Дамаску — бажніцу Яна Хрысціцеля.**

**У значнай ступені цікавілі Сіротку прырода і гаспадарка краін, якія ён наведваў. Падарожнік адзначае вялікую ролю разліваў Ніла, ярка і цікава распавядае пра свята пуску вады ў канал, падчас якога жыхары Каіра просяць у багоў багатага ўраджаю. Не абыходзіць Сіротка і такі прыкры факт, як рабства ў Егіпце. З абурэннем гаворыць пра жорсткае стаўленне да неграў, якіх купляюць, як рэчы. Шмат месца адводзіць апісанню экзатычных звяроў, якія былі невядомыя жыхарам Беларусі: хамелеона, малпаў, леапардаў і інш.**

**Кніга Сіроткі доўгі час была найбольш поўнай і каштоўнай крыніцай інфармацыі пра краіны Блізкага Усходу, яна з 1601 года 19 разоў перавыдавалася на розных еўрапейскіх мовах.**

**Наталля САНЬКО.**

# Знешні выгляд і ўнутраны змест

СУСТРЭЧА З НОВАЙ КНІГАЙ гэта заўсёды чаканне цікавага, незнаёмага. Прычым, кожны імкнецца знайсці ў ёй штосьці такое, чаго сам жадае.

Шмат чаго імкнуліся даведацца з выдання «Музычны тэатр Беларусі (1917—1959 гг.)» аматары і дзеячы мастацтва. Але з асаблівай цікавасцю чакалі выхада ў свет гэтай кнігі ўдзельнікі, сведкі тых падзей.

Дык ці збыліся гэтыя чаканні?.. Вось першае ўражанне.

Выдадзена яна Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь, а таксама Міністэрствам культуры рэспублікі. Дарэчы, на сродкі апошняга.

Як сказана ў кароткай анатацыі, гэтае выданне разлічана на музыказнаўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў, на ўсіх, хто цікавіцца беларускім музычным мастацтвам.

Асаблівую ж цікавасць яна прадстаўляе для артыстаў музычнага тэатра розных пакаленняў.

Тыраж гэтай кнігі невялікі — дзве з паловай тысячы. Таму купіць яе няпроста. Напэўна, яна ў хуткім часе стане бібліяграфічнай рэдкасцю.

Уважліва прагледзеўшы ўсе 430 старонак, прыемна здзіўляюся прыгожай дыхтоўнасці выдання — высокаякасная папера, добрага густу афармленне і шмат розных здымкаў, якія living rознабакова ілюструюць, дапаўняюць тэкставы матэрыял.

Дапамагаюць лепш сарыентавацца ў зборніку і дадаткі — храналагічныя даведкі пра оперныя і балетныя спектаклі тэатра, спісы імён, твораў. І гэта стварае ўражанне акадэмічнасці, навуковасці выдання. Але ж, на жаль, толькі ўражанне...

Што ж датычыць самога зместа, дык кніга напісана, мякка гаворачы, няроўна. Пералік імён, назваў, дат — гэта яшчэ не гісторыя тэатра, які нядаўна адзначыў сваё шасцідзесяцігоддзе.

Зразумела, зрабіць цікавую, змястоўную кнігу аб музычным тэатры не проста. Якасць не залежыць нават ад таго, што, як паведаміла адна з аўтараў і навуковы рэдактар Тамара Мдывані, за невялікім выключэннем аўтары кнігі — музыказнаўцы.

НЯЎМОЛЬНА БЯЖЫЦЬ ЧАС. Амаль не засталося ў жывых тых, хто стаяў ля вытокаў опернага, балетнага мастацтва Беларусі савецкага перыяду, аб якіх ідзе гаворка ў кнізе.

Вось чаму мне, выхаванай у тэатральнай сям'і, захацелася падзяліцца сваімі думкамі.

Бацька мой, Навум Сямёнавіч Балазоўскі, працаваў дырыжорам опернага тэатра. Ён загінуў у 1941 годзе. Маці, Дора Захараўна Кроз, у свой час — вядомая оперная спявачка. Мне вельмі прыемна, што пра сваіх бацькоў я знайшла ў кнізе некалькі добрых, сардэчных слоў. Я ж была зусім маленькай, калі загінуў мой татачка, нават зусім не памятую яго. Толькі са слоў тых, хто яго добра ведаў, мне стала вядома, якім цудоўным чалавекам ён быў...

Мне нават невядома, дзе ён пахаваны... І вось, нарэшце, на 50-м годзе з дня вызвалення Беларусі ад гітлераўцаў я прачытала хоць нешта пра бацьку.

Шчырае, сардэчнае дзякуй за гэта!

На жаль, аўтары кнігі не выкарысталі ўспамінаў маёй маці, якой сёлетняй восенню споўніцца 85 гадоў. А яна ўжо адзіная з пакалення вядомых оперных спевакоў — Л. Александроўскай, І. Балоціна, Р. Млодак, С. Друкер, М. Дзянісава...

Вельмі сціпла расказваецца ў кнізе, напрыклад, аб такой таленавітай спявачцы, як Соф'я Друкер. Прывабны прыгожы голас і талент драматычнай актрысы дазволіў ёй у сталым узросце выконваць характэрныя партыі.

АЎТАРЫ КНІГІ мала ўвагі надалі такой фігуры ў оперным тэатры, як канцэртмайстар. А культуры, кругагляду яго ў многім залежыць рэпертуар тэатра, узровень майстэрства вакаліста.

У гісторыю нашага опернага тэатра ўвайшло імя галоўнага канцэртмайстара, народнага артыста Сямёна Львовіча Талкачова, які выхаваў не адно пакаленне спевакоў. Але, на жаль, аўтары кнігі не знайшлі добрых сардэчных слоў для расказа аб гэтым таленавітым музыканце.

Нічога не расказана і аб вядомым артысце, уладальніку прыгожага барытона Арсене Арсенка, які трагічна загінуў у 1944-м годзе. Неяк бегла, мімаходзь гаворыцца пра выдатнага спевака, таленавітага акцёра Мікалая Ворвулева. І гэта проста незразумела ўсім шматлікім прыхільнікам опернага мастацтва, якія спецыяльна ішлі на спектаклі, калі ў іх удзельнічаў гэты вядомы выканаўца.

Аб гэтым жа мне гаварыў у сваім водгуку на кнігу выдатны оперны спявак Аркадзь Саўчанка:

— Незразумела, чаму аб цудоўным голасе Мікалая Ворвулева, аб якім вельмі многа гаварылі ў той час, калі я прыйшоў у тэатр, амаль нічога не напісана ў кнізе?

Наогул, гэтае выданне вее духам таго часу, аб якім ідзе размова. Амаль на кожнай старонцы гаворыцца аб Ларысе Александроўскай, аб вялікім значэнні якой у беларускім музычным мастацтве не спрачаюся. Але ж не адна яна працавала ў тэатры.

На думку А. Саўчанкі, у кнізе часткова перанесены тэкст старых рэцэнзій.

Амаль тое ж самае гаворыць яшчэ адзін вядомы оперны артыст Віктар Чарнабаеў:

— Такое ўражанне, што гэтае выданне прадстаўляе пераказ рэцэнзій. На мой погляд, гэтая кніга напісана сухой, казённай мовай, як гаворыцца, без душы.

А вось уражанне былой вядомай артысткі балета Ірыны Даронінай:

— Сухавата. Есць недакладнасці. Здаецца, можна было напісаць больш дакладна аб асобных артыстах.

Так, з гэтымі выказваннямі нельга не згадзіцца. І я таксама адчула, што гэтае выданне напісана нейкай абыякавай мовай. У аповядах няма паэтычнасці, красамоўнасці, прыгажосці, цеплыні, шчырасці. А размова ж ідзе аб людзях мастацтва!

Імкнучыся нікога не забыць, аўтары страцілі галоўнае. Няма яркага, змястоўнага аповяду аб тым, як жыў тэатральны калектыў у тыя гады. Не адчуваецца размовы з пазіцыі сённяшняга дня.

Няроўна, па-рознаму напісана аб тых ці іншых артыстах. На мой погляд, аб спеваку В. Глушакову напісана не зусім аб'ектыўна.

ДОБРЫ НАМЕР мелі стваральнікі кнігі — грунтоўна расказаць гісторыю опернага тэатра Беларусі савецкага часу. Але, на жаль, не атрымалася.

Гэта тым больш крыўдна, што з цягам часу ўсё расце аўтарытэт оперных, балетных спектакляў.

**Вера КРОЗ.**

## «БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-94»



















**«БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ» — (1917—1990): Даведнік / Склад. А. К. Гардзіцкі; Нав. рэд. А. Л. Верабей.— Выдавецтва «Мастацкая літаратура».**

Новы бібліяграфічны даведнік складаецца на падставе папярэдняга, выдадзенага ў 1981 годзе. Яго істотна папаўняюць імёны, якія нам вяртае час,— А. Гаруна, В. Ластоўскага, А. Мрыя і інш., а таксама звесткі пра беларускіх пісьменнікаў замежжа і тых, што сталі членамі Саюза пісьменнікаў за апошнія дзесяць гадоў.

**«НАРЫСЫ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ». У 2-х ч. Ч. 1. М. П. Касцюк, У. Ф. Ісаенка, Г. В. Штыхаў і інш.— Выдавецтва «Беларусь».**

Упершыню падаецца гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да падзей Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года з нацыянальнага пункту гледжання, які грунтуецца на прызнанні факта шматвяковага існавання беларускага этнаса як суб'екта гісторыі. Аўтары шмат у чым пераасэнсоўваюць гістарычны шлях беларускага народа.

**Максім ГАРЭЦКІ: «РУНЬ». Апавяданні. Вільня, 1914. Рэпрынтнае выданне. Мінск, выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1994.**

«Значнай падзеяй у гісторыі нашай дакастрычніцкай літаратуры стала ўжо самая першая кніга Максіма Гарэцкага — зборнік апавяданняў «Рунь», выдадзены ў 1914 годзе Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні. Гэтая кніга, надрукаваная, дарэчы, сказаць, у друкарні таго самага «пана Марціна Кухты», якога добрым словам успамінаў у сваім перадсмяротным вершы Максім Багдановіч, была прыхільна сустрэта сучаснікамі і паплечнікамі аўтара».

(З артыкула «Пошукі вышэйшага сэнсу» Дзмітрыя Бугаёва).

**М. У. МІКУЛІЧ: «МАКСІМ ТАНК І СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІРЫКА». Навуковы рэдактар доктар філалагічных навук член-карэспандэнт АН Беларусі У. В. Гніламёдаў. Рэцэнзенты: кандыдаты філалагічных навук А. Л. Верабей і М. І. Мішчанчук. Выдавецтва «Навука і тэхніка».**

У кнізе асэнсоўваецца працэс станаўлення творчай індывідуальнасці Максіма Танка, багацце сувязей паэта з фальклорнымі і літаратурнымі традыцыямі (Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, У. Маякоўскі і інш.), самабытнасць яго мастацка-філасофскага свету, вобразна-асацыятыўнага мыслення і г. д. Прасочваецца уплыў творчасці Максіма Танка на развіццё сучаснай беларускай лірыкі, выяўляюцца рысы тыпалагічнай агульнасці мастака з іншымі нацыянальнымі паэтамі.

**«МИНСК. ИСТОРИЧЕСКИЙ ОЧЕРК». Прадмова А. Н. Кулагіна. Мастак Е. А. Ждანоўская. Выдавецтва «Універсітэцкае».**

Гістарычны нарыс аб Мінску друкуецца з кнігі: «Россия: Полное географическое описание нашего отечества / Под ред. В. П. Семёнова. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия, 1905».

Змяшчае цікавы матэрыял па гістарычнаму развіццю Мінска з XI веку, г. зн. з моманту ўпамінання аб ім у летапісу, і да сённяшняга часу.

**«КУРАПАТЫ». Артыкулы, навуковая справаздача, фотаздымкі (З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў). Незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія». Менск, 1994. Выданьне 2-е, пашыранае.**

Зборнік з'яўляецца дакумэнтальным сьведчаньнем пра злачынствы бальшавіцкага рэжыму ва ўрочышчы «Курапаты» паблізу Менска. Курапаты — першае з адкрытых у Беларусі месцаў, дзе былі зьнішчаныя й пахаваныя ахвяры сталінскіх рэпрэсіяў. Яно стала сымбалем генацыду супраць уласнага народу. Уключаныя ў зборнік матэрыялы абуджаюць памяць пра нявінна забітых, заклікаюць шанаваць свабоду й сумленьне.

**С. М. ГРАБЧЫКАЎ: «СЛОЎНІК ПАРОНІМАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ». Рэцэнзент кандыдат філалагічных навук В. П. Красней. Выдавецтва «Народная асвета».**

У слоўнік уключаны словы, блізкія па гучанню, але розныя па значэнню: *абагуліць // абагульніць, бескарыслівы // бескарысны, метэарыт // метэор, цікавы // цікаўны* і да т. п. Кожнаму слову (усяго іх звыш 3300) даецца тлумачэнне, прыводзіцца прыклад, які ілюструе яго значэнне.

**Янка ЮХНАВЕЦ: «СНЫ НА ЧУЖЫНЕ». Уклад. і прадмова А. Бяляцкага. («Галасы беларускага замежжа»). Выдавецтва «Мастацкая літаратура».**

Творы паэта Янкі Юхнаўца, які жыве ў ЗША, няпростыя для ўспрымання. Ён імкнецца вылучыць паэтычную субстанцыю жыцця, занатаваць «спакойны беларускі погляд» на космас, што звязан з намі безліччу нябачных нітак.

**С. А. СТАНЮТА: «СТЭФАНІЯ». Выдавецтва «Беларусь», МП «Эўрыка».**

Рэдактар Г. П. Касцялецкая. Мастак В. В. Кузьмічова.

Народную артыстку Стэфанію Міхайлаўну Станюта ведаюць і любяць не толькі ў нашай рэспубліцы, але і за яе межамі. Яна адна са старэйшых майстроў сцэны Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

За яе плячамі дзесяткі сыграных роляў у тэатры і кіно. Агромністы сцэнічны вопыт, доўгае, цікава пражытае жыццё. Якім яно было? Чым насычанае? Што хвалюе актрысу сягоння? Што засталося няспраўджаным, як міраж? Аб гэтым і шмат іншым расказвае ў невялікіх зарысоўках і дыялогах з маці пісьменнік Аляксандр Станюта.

**В. У. ДАДЗІЁМАВА: «ГІСТОРЫЯ МУЗЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ» ад старажытнасці да канца XVIII ст. «Дапаможнік для сярэдніх навучальных устаноў гуманітарнага профілю». Мінск, Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, 1994.**

У навучальным дапаможніку даецца кароткі нарыс гісторыі прафесійнай і аматарскай музычнай культуры Беларусі (і адпаведна музычнага мастацтва пісьмовай традыцыі) ад старажытнасці да канца XVIII ст.

Дапаможнік складаецца з асобных гістарычных нарысаў, тэматыка і змест якіх абумоўлены наяўнасцю фактаалагічнага матэрыялу і ступенню яго даследаванасці на сённяшнім этапе асваення айчыннай музычна-культурнай спадчыны. У кнізе таксама змешчаны нотны дадатак, які складаецца з некалькіх музычных помнікаў Беларусі XVI—XVIII стст.

**Анатоль КУДРАВЕЦ: «САЧЫНЕННЕ НА ВОЛЬНУЮ ТЭМУ. РАДАНІЦА». Раман. Аповесць. Для старэйшага школьнага ўзросту. Мастак В. В. Жоўна. Выдавецтва «Юнацтва».**

Галоўны герой рамана вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Анатоля Кудраўца «Сачыненне на вольную тэму» Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэтка — чалавек складанага лёсу. Ён сустрэў на сваім жыццёвым шляху шмат нягод, але не страціў веру ў людзей.

Героі аповесці «Радаўніца» нібы яшчэ раз перажываюць сваё жыццё, згадваючы яго ў сваёй памяці, і памяць гэтая не проста вяртае чалавека ў мінулае, а судзіць яго днём сённяшнім.

**Уладзімір МАЗГО: «СУСЕДЗІ ПА СУСВЕЦЕ». Вершы, загадкі, казкі. Для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Мастак Ю. К. Зайцаў. Выдавецтва «Юнацтва».**

Хлопчык Андрэйка вядзе дыялог з прышэльцамі з космасу. Дзяўчынка Маша, якая вельмі любіць эскімо, ператвараецца ў эскімоску. Крот — адпускнік устройвае аукцыён, Зубр — адзінец вызваляе свой край. Заяц, качка і сарока вызваляюць з бяды сонца. Аб гэтым і многім іншым вы прачытаеце ў кнізе.

















